# ЗАРА над ДРУЦЦЮ

Орган Бялыніцкага раённага Савета дэпутатаў і райвыканкама

СЕРАДА 12 ЛІПЕНЯ № 53 (8564) 2000 года

Цана 25 руб.

Выдаецца з 1931 года

● „УРАДЖАЙ"-2000

# ПАКУЛЬ СПЕЕ ХЛЕБНЫ КОЛАС....

**Набліжаецца галоўны хлебаробскі экзамен—жніво.Не сакрэт, што з-за парушэння тэрмінаў і якасці ўборкі гаспадаркі раёна штогод не дабіраюць сотні тон ужо вырашчанага збожжа. А па рэспубліцы—больш мільёна тон. Калі б удалося прадухіліць гэтыя страты, то не завезілі б з-за мяжы такія вялікія аб'ёмы яго, не плацілі б за гэта валютай. А яна, вядома, як паветра, патрэбна на ахову здароўя людзей, на ўкараненне новых прагрэсіўных відаў тэхналогій як у прамысловасці, так і ў сельскай гаспадарцы.**

**А што можна зрабіць, каб не дапусціць страт хлеба на жніве? Неабходна своечасова і якасна адрамантаваць камбайны,укамплектаваць іх экіпажы вопытнымі механізатарамі, вызначыць меры маральнага і матэрыяльнага заахвочвання для ўсіх тых, хто будзе самааддана працаваць на хлебным полі.А як абстаіць справы па гэтаму важнаму пытанню ў калгасах і саўгасах?**

**Сёння мы публікуем падборку матэрыялаў, якія расказваюць аб падрыхтоўцы гаспадарак да жніва.**

● РУПЛІЎЦЫ ХЛЕБНАЙ НІВЫ



**У саўгасе " Бялынічы " павагай і аўтарытэтам карыстаецца механізатар А.В. Палуда. За яго плячыма шаснаццаць гадоў нястомнай працы на грамадскіх палетках гаспадаркі. Дырэкцыя і аграномічная служба давяраюць яму самыя адказныя работы. Сёлета , напрыклад, ён па-ўдарнаму шчыраваў на сяўбе зерневых і зернебабовых культур, хімпраполцы пасеваў. А ў жніўны прыпар сядзе за штурвал магутнага камбайна „Дон-1500".**

**Цяпер Анатоль Віктаравіч заканчвае апошнія рамонтныя работы свайго палявога карабля. Ён уважліва аглядае кожны рабочы вузел і механізм, змазвае іх, робіць герметызацыю камбайна.**

**НА ЗДЫМКУ : А. В.Палуда.**

**Фота В.РАДОЎСКАГА.**

## ХЛЕБ НЕ ТОЙ, ШТО НА НІВЕ

Найтрывожнейшае становішча з рамонтам зернеўборачнай тэхнікі склалася ў калгасах „Ленінскі заклік ", імя Чкалава, саўгасе " Каліноўскі ". На завяршэнне рамонтных работ, у цэлым, ім неабходна адпаведна па 8, 6 і 8 мільёнаў рублёў.

У " Ленінскім заклiку " не падрыхтаваны да прыёму збожжа новага ўраджаю і КЗС . У саўгасе " Каліноўскі "з двух наяўных адрамантаваны толькі адзін.

Тых сродкаў , якія паступілі ў гаспадаркі ў якасці авансу за продаж будучага ўраджаю, яўна недастаткова.

Канешне, можна наракаць на адсутнасць фінансаў, незбалансаваны парытэт цэн... Але ў тых гаспадарках, кіраўнікі якіх своечасова падумалі пра жніво, такой праблемы з падрыхтоўкай уборачнай тэхнікі няма. Ніхто і нішто не перашкаджала, напрыклад, дырэкцыі саўгаса "Падзевічы", АГП "Друць", праўленню калгасаў імя Фрунзе , "Запаветы Леніна" і іншым адправіць на рамонт камбайны на Магілёўскі завод "Строммаш", у майстэрні райаграпрамтэхзабеспячэнне. На "Строммашы" замест вызначаных для раёна па плану 28 камбайнаў адрамантаваны 35, 13 уборачных агрэгатаў даведзены да ладу ў райаграпрамтэхзабеспячэнні, 12— рамантуюцца.

І калі, такім чынам, калгас імя Фрунзе, саўгас " Падзевічы " адрамантавалі адпаведна 5, 4 "Доны -1500" (на " Строммашы"), то ў "Каліноўскім", у калгасах імя Чкалава", " Ленінскі заклік", некаторых іншых гаспадарках тую магчымасць проста праспалі.

**(Наш кар.)**

## ІНФАРМАЦЫЯ

**інжынернай службы райсельгасхарчу аб падрыхтаванасці камбайнаў да жніва.**

Першая графа – назвы гаспадарак, другая – наяўнасць камбайнаў, трэцяя – адрамантавана (штук).

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| імя Энгельса | 8 | 5 | імя Леніна | 7 | 5 |
| імя Ільіча | 9 | 5 | "Наша перамога" | 7 | 5 |
| „Камінтэрн" | 11 | 7 | "Бялынічы" | 7 | 4 |
| імя Заслонава | 8 | 7 | "Каліноўскі" | 7 | 3 |
| імя Кірава | 7 | 4 | "Падзевічы" | 9 | 5 |
| "Запаветы Леніна" | 6 | 5 | "Друць" | 13 | 11 |
| "Ленінскі заклік" | 7 | 3 | "Эсьмоны" | 8 | 5 |
| "Радзіма" | 8 | 4 | "Іскра" | 6 | 3 |
| імя Фрунзе | 6 | 5 | | | |
| імя Чкалава | 6 | 3 | **Па раёну:** | **140** | **89** |

**Галоўны інжынер калгаса імя Заслонава М. Б. КІМЕЛЬ:**

# „Асноўную стаўку на жніве зробім на тэмпы і якасць"

**Усё менш часу застаецца да пачатку ўборкі новага ўраджаю. Як жа да яе рыхтуюцца ў калгасе імя Заслонава? Аб гэтым наш карэспандэнт В. Сухараў гутарыць з галоўным інжынерам гаспадаркі М. Б. Кімелем.**

**— Мікалай Бярнардавіч, скажыце, калі ласка, што зроблена ў вашым калгасе па давядзенню да ладу ўборачнай тэхнікі?**

— Сёлета на хлебную ніву выведзем восем зернеўборачных камбайнаў, з іх чатыры – магутныя "Доны-1500" і столькі ж СК-5. Праўленне і інжынерная служба калгаса загадзя паклапаціліся, каб своечасова іх адрамантаваць. Дзеля гэтага мінулай восенню тры камбайны даставілі ў майстэрню райаграпрамтэхзабеспячэння і два — на магілёўскі завод "Строммаш". І вось сёння ўжо сем уборачных агрэгатаў пастаўлены на лінейку гатоўнасці.

Цяпер механізатар Аляксандр Ісакоў узнаўляе свой "Дон-1500". Яму практычную дапамогу аказваюць слесары Аляксандр Зіначоў і Аляксандр Кузьміч, токар Генадзь Дзямідаў, якія заадно часта займаюцца рэстаўрацыяй старых дэталяў, і тым самым эканомяцца грашовыя сродкі на іх пакупку.

**— А якія ж праблемы ўзнікаюць пры рамонце тэхнікі?**

— Вядома, сёння іх хоць адбаўляй. Яны сустракаюцца амаль на кожным кроку ў сельскагаспадарчай вытворчасці. Вось, скажам, для наяўных зернеўборачных камбайнаў і энерганасычаных трактароў неабходна дзесяць акамулятараў, за якія трэба заплаціць 1700 тысяч рублёў. Цяпер праўленне калгаса занепакоена, як выйсці з гэтага цяжкага становішча. Няма грошай і на пакупку запчастак. Нечым будзе дапамагчы камбайнеру, калі пад рукой не акажацца патрэбная дэталь.

**— Хто павядзе палявыя караблі па збожжавым палетку і як будзе арганізавана ў гаспадарцы іх работа?**

— Як і ў папярэднім годзе, на жніве-2000 будуць задзейнічаны спецыяльныя звенні, якія аб'ядноўваюцца ў адзін тэхналагічны комплекс. У асноўным упор зробім на прамое камбайнаванне, прыменім і раздзельны спосаб уборкі.

За штурвалы камбайнаў сядуць вопытныя механізатары, якія зарэкамендавалі сябе сапраўднымі майстрамі сваёй справы. Гэта — Яўген Ісакоў, Мікалай Чубкоў, Сяргей Прэнз, Сяргей Ісакоў і іншыя.

**— А ці вялікая нагрузка ў калгасе на адзін збожжаўборачны камбайн?**

— На палетках нашай гаспадаркі зерневыя і зернебабовыя культуры займаюць плошчу ў 1150 гектараў і на кожны камбайн прыпадае ў сярэднім па 150 гектараў. Калі ўлічыць багаты вопыт нашых камбайнераў, то ім пад сілу своечасова ўбраць вырашчаны ўраджай-2000.

**— Як будуць матэрыяльна зацікаўлены пераможцы працоўнага спаборніцтва на жніве?**

— Праўленне калгаса сумесна з аграномічнай, эканамічнай службамі і прафкамам на перыяд жніва распрацавалі ўмовы аплаты працы і стымулявання. Асноўная стаўка зроблена на тэмпы і якасць уборкі. Правафланговыя экіпажы камбайнаў і шафёры, якія заняты на перавозцы збожжа, атрымаюць прэміі і натуральную даплату. Для ўсіх удзельнікаў жніва-2000 наладзім гарачае харчаванне.

**— Сёлета на палетках вашага калгаса спее больш важкі колас, чым летась. Ці гатова да прыёму новага хлеба сушыльная гаспадарка?**

— У калгасе ёсць дастатковая колькасць ачышчальных і сушыльных машын. Як і ў папярэднія гады, падпрацоўваць зерне будзем на двух таках. На Свяцілавіцкім ужо гатова да прыёму збожжасушылка польскай вытворчасці К-817. Машыністы-апаратары Пётр Лебядок і Мікалай Гаранінаў давялі яе да ладу і гатовы хоць сёння ачышчаць зерне.

Цяпер вядуцца рамонтныя работы на КЗС-5, што ў вёсцы Прыхабы, ачышчаем збожжасховішчы ад смецця.

**— І апошняе пытанне: што вам, Мікалай Бярнардавіч, перашкаджае больш дзейсна весці падрыхтоўку да жніва?**

— Канешне, нельга сказаць, што справы з падрыхтоўкай да ўборкі збажыны ў нас ідуць гладка. Так, з-за цяжкага фінансавага становішча не можам набыць неабходныя запчасткі для камбайнаў і трактароў, патрэбную колькасць гаруча-змазачных матэрыялаў.Сёлета, напрыклад, па стану на 5 ліпеня не завезена аніколькі паліва, у той час, як летась у ёмістасцях яго захоўвалася больш за пяць тон.Яшчэ не поўнасцю ўкамплектаваны два экіпажы камбайнаў, не створана звяно па тэхнічнаму абслугоўванню палявых караблёў непасрэдна ў полі.

## ПАДЗЕІ І ФАКТЫ

### ВСТРЕЧА ПРЕМЬЕР-МИНИСТРА

***Для нас важна работа, которая бы содействовала выполнению программы действий по созданию Союзного государства, в том числе и по унификации налогового законодательства Республики Беларусь и Российской Федерации.***

*Об этом заявил Премьер - министр нашей страны Владимир Ермошин в ходе встречи с министром по налогам и сборам России Геннадием Букаевым.Она состоялась вчера в Доме правительства с участием полномочного представителя Президента Республики Беларусь —заместителя Премьер-министра Леонида Козика и председателя Государственного налогового комитета Константина Сумара.Владимир Ермошин подчеркнул заинтересованность белорусской стороны в создании такого налогового законодательства , которое будет гармонировать с российским . Он назвал это одной из главных задач.*

### ДЕНЬГИ ДЛЯ НОВОГО САРКОФАГА

***В Берлине открылась Международная конференция по проблемам Чернобыльской АЭС.***

*Ожидается, что Европейский союз и „большая семерка" объявят об увеличении вдвое - до 600 миллионов долларов - суммы, предназначенной для ликвидации последствий чернобыльской катастрофы. С учетом уже выделенных средств Украина получает 7 миллионов долларов для постройки нового саркофага над реактором, взорвавшемся в 1986 году. Старый саркофаг дал трещины и не обеспечивает надежной защиты от радиации.*

### ПОСВЯЩЕНИЕ ПАРИЖУ ШАГАЛА

*В день рождения Марка Шагала – 8 июля – в Национальном художественном музее Беларуси открылась выставка произведений художника под названием „Посвящение Парижу". В экспозиции будут представлены произведения различных жанров – акварели, литографии, пастели, гуаши, даже гобелены, выполненные по эскизам Мастера.*

### ВНИМАНИЕ!

19 июля с.г. в 10.00 в облисполкоме министром по чрезвычайным ситуациям республики Беларусь **АСТАПОВЫМ В.П.** будет осуществляться прием граждан области.

Предварительная запись проводится по рабочим дням с 8.30 до 17.00 по адресу: г. Могилёв, Дом Советов, каб. 113 или по телефонам 32-67-21, 32-67-43, 31-05-24 в областном управлении МЧС.

• *НЕЗАБЫЎНАЕ*

# ДОЛГОЙ БЫЛА ПЕРЕМЕНА, *или встреча через 45 лет*

**После последнего звонка первого послевоенного выпуска десятиклассников Запольской средней школы длилась перемена ровно 45 лет.**

... И как в том памятном 1955 году, шли мы недавно снова в школу. Шли по дороге из Замочулья,шли не спеша, вспоминали о школьных годах, гадали, кто еще приедет на встречу.Постояли у плотины, где раньше была старая мельница, сделали привал у Средней Речки. Как многое изменилось вокруг за прошедшие годы:где было поле , встал стеной лес,полевая дорога перестроена в добротное скоростное шоссе...

Время приближается к назначенной встрече. Волнение охватывает нас, когда входим на широкий школьный двор. У забора, на скамейке, степенно сидят такие же как и мы поседевшие наши однокашники. Обътия... восклицания... Долгой была перемена. Сколько за это время отмело вьюг и цветущих весен!

Приветливо встретил нас учительский коллектив школы,особенно организатор этой нескаанной встречи учительница Татьяна Иосифовна Троцкая. Она пригласила нас осмотреть классы, которые оборудованы ничуть не хуже городских. Особенно нас поразил школьный музей. В его зале собраны орудия труда давно ушедшего времени, наших предков.Всё собрано и представлено с большим знанием дела и любовью. А бесценные стенды, посвящённые памяти наших земляков,отдавших самое дорогое — жизнь – в годы сурового лихолетья! Отмечены имена и заслуженных земляков: военных , ученых, тружеников совхоза. Есть чем гордиться Запольской школе!



Прозвенел звонок. Шумной ватагой школьники заполнили двор. Татьяна Иосифовна распорядилась и через минуту-вторую образовался полукруг: на левом фланге — первоклассники и замыкающий правый — десятиклассники. Нас представили собравшимся и дали возможность обратиться к ним. В своих выступлениях мы делились воспоминаниями. И нам было о чем рассказать сегодняшнему поколению.Ведь наше детство познало суровые годы войны,нелегкое послевоенное время, первые годы учебы, когда один учебник был на весь класс... И о многом другом. Мы вспомнили с благодарностью наших учителей,которым мы многим обязаны. Долгой была у нас перемена.Наша встреча была радостной, вселила много бодрости. Последние наши слова к собравшимся были едины: школьную дружбу храните, не забывайте своих учителей, берегите честь Запольской школы.

**Владимир КОРОЛЬ, выпускник Запольской школы 1955 года.**

• *РЭЙДАВАЯ ПАВЕДАМЛЯЕ*

# Якія гаспадары, такія і двары

**Згодна рашэння райвыканкама "Аб паляпшэнні добраўпарадкавання, азелянення і ўтрымання тэрыторый г.п. Бялынічы", усе кіраўнікі прамысловых прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў абавязаны штотыднёва ў пятніцу з 14 да 17 гадзін арганізоўваць санітарны дзень па навядзенню належнага парадку на замацаваных за імі тэрыторыях.**

30 чэрвеня гэтага года члены рэйдавай брыгады пабывалі ля большасці адміністрацыйных будынкаў і вытворчых баз прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў райцэнтра. Што ж яны ўбачылі?

Прыгажосць і чысціня — фактары непадзельныя. Іх спалучэнне як нельга лепш адчуваецца, калі глядзіш на вуліцу Мічурына. Роўныя, дагледжаныя прысады і газоны, убраныя двары, акуратныя агароджы. Тут амаль кожны дзень працуюць рабочыя раённага ўнітарнага камунальнага прадпрыемства "Жылкамунгас". Яны падкошваюць травы спецыяльнай касілкай,таму нідзе не заўважыш пустазелля.

Ля шашы Бялынічы —Магілёў нашу ўвагу прыцягнулі пракосы травы ў парку, што побач з аўтастанцыяй. Аказваецца, гэта навялі парадак насупраць сваіх адміністрацыйных будынкаў рабочыя і інжынерна-тэхнічныя работнікі аўтабаз № 3 і № 7.А вось калектыў дапаможнай школы-інтэрната для дзяцей-сірот у той дзень не наводзіў парадак у парку.

Непрывабны выгляд мела асфальтаваная дарога Бялынічы – Мяльнік. Паабапал яе, пачынаючы ад павароту ля раёна электрычных сетак да ветсанутыльзавода, не абкошаны кюветы. Шмат пустазелля ля падстанцыі і арэнднага прадпрыемства "Аграсэрвіс".

Прыемнае ўражанне ў нас пакінула тэрыторыя, якая прылягае да ветсанутыльзавода.Яна была па-гаспадарску дагледжана.

Прыгожай выглядала тэрыторыя ля Бялыніцкага раёна газазабеспячэння. Пустазелле і трава на ёй былі скошаны.А вось ля адміністрацыйнага будынка і вытворчай базы ПМК-241 паўсюдна панаваў беспарадак. На вуліцы Чырвонаармейская ,,квітнела" пустазелле, ля ведамасных дамоў было параскідана смецце , хоць тут і ёсць ёмістасць для яго скідвання. А ля інтэрната амаль на праезнай частцы дарогі стаіць... туалет.

Вялікага папроку заслугоўваюць жыхары ведамасных дамоў №№ 9 і 11, што па вуліцы Будаўнікоў. Амаль пад самымі вокнамі іх кватэр расце пустазелле. І ніхто не праяўляе ініцыятыву,каб яго скасіць.

Насупраць вытворчай базы ПМК-241 размешчаны гаражы аддзела культуры райвыканкама. Побач з імі, ля плота, утворана несанкцыяніраваная звалка смецця. Дарэчы, непрыемную карціну мы ўбачылі і ля будынка цэнтральнай раённай бібліятэкі. Побач з тэрыторыяй Бялыніцкай пажарнай аварыйна-выратавальнай часці, на якой растуць кветкі, ляжыць груд цэглы, якая адвалілася ад драўлянай сцяны бібліятэкі.

Не выйшлі ў мінулую пятніцу на добраўпарадкаванне сваёй тэрыторыі калектывы райаграпрамтэхзабеспячэння, вытворчага аб'яднання грамадскага харчавання райпа і іншыя.

Кіраўнікі працоўных калектываў абавязаны разам са сваімі падначаленымі актыўна ўключыцца ў паход за навядзенне высокай культуры ў гарадскім пасёлку.

**В.ШЫМБАЛЁЎ, начальнік раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя;**

**М.ВЯРЦІНСКІ, загадчык жыллёва-камунальнага аддзела райвыканкама;**

**В.СУХАРАЎ, загадчык аддзела рэдакцыі газеты "Зара над Друццю".**



**НА ЗДЫМКУ: так выглядае вуліца Чырвонаармейская ля вытворчай базы ПМК-241.**

**Фота В. РАДОЎСКАГА.**

• *"ЗАРЫ НАД ДРУЦЦЮ" АДКАЗВАЮЦЬ*

## ,,ПА ПРЫНЦЫПУ "ЦЯП-ЛЯП"

Пад такім загалоўкам у № 38 нашай газеты была змешчана крытычная заметка аб парушэнні агратэхнікі на сяўбе зерневых культур у саўгасе "Эсьмоны".

Дырэктар гаспадаркі Р. А. Барысёнак адказаў рэдакцыі, што факты, выкладзеныя ў ёй, адпавядалі сапраўднасці. Выступленне газеты абмеркавана на вытворчай нарадзе спецыялістаў саўгаса. Да вінаватых прыняты строгія меры ўздзеяння.

За дапушчаную безгаспадарчасць на сяўбе аўса галоўнаму аграному саўгаса Ф. І. Далячку і брыгадзіру комплекснай брыгады Л. В. Буймістраву аб'яўлены вымовы. Кожны з іх пазбаўлены ўсіх відаў прэмій і даплат за шэсць месяцаў бягучага года.

• *НУ І НУ!*

## *СЫН ПАБІЎ МАЦІ*

**У аддзел унутраных спраў райвыканкама з заявай звярнулася грамадзянка В. І. Фіялкоўская, якая пражывае па вуліцы Калініна,1-22 г. п. Бялынічы.**

Што ж яе прымусіла? Аказваецца, на працягу некалькіх месяцаў ёй не дае спакою сын. У чарговы раз ён завітаў у кватэру маці на добрым падпітку і моцна яе збіў, прычыніўшы цялесныя пашкоджанні.

Аналагічнае здарэнне адбылося і ў вёсцы Буднікі Эсьмонскага сельскага Савета. Так, раніцою 19 чэрвеня г. г. грамадзянін А. Л. Лапо сустрэў паблізу мясцовай фермы саўгаса "Эсьмоны" Д. Л. Аўдзеева. Без прычыны ён стаў на яго брыдкасловіць, а потым пусціў у ход свае кулакі і нанёс яму сур'ёзныя цялесныя пабоі.

**(Наш кар.)**

# Раённая інфармацыя

## І ГРАМАТЫ, І ПАДЗЯКІ.

*На ўрачыстым сходзе, прысвечаным Міжнароднаму дню кааперацыі, праўленне райпа цёпла ўшанавала сваіх перадавікоў.Напачатку намеснік старшыні райпа па гандлю А.І.Бондарава коратка расказала прысутным аб выніках гаспадарча-фінансавай дзейнасці раённай спажывецкай кааперацыі і назвала лепшых яе работнікаў.*

*Затым старшыня раённага Савета дэпутатаў А.А.Ганчук уручыў ім узнагароды.Ганаровую грамату аблспажыўсаюза атрымала повар унітарнага вытворчага прадпрыемства "Грамадскае харчаванне райпа" Ірына Далжанкова, граматы райвыканкама—загадчыца Асман-Касаеўскага магазіна змешаных тавараў Іна Поларава і галоўны бухгалтар райпа Тамара Адамовіч.*

*Ганаровае званне "Заслужаны ветэран працы калектыву" прысвоена сямі работнікам, за плячыма якіх 25 гадоў работы ў спажывецкай кааперацыі.*

## ВІВАТ, ЧЭМПІЁН!

*У Гомелі адбыліся YIII рэспубліканскія юнацкія гульні па лёгкай атлетыцы сярод юнакоў і дзяўчат 1983-84 гадоў нараджэння. У складзе зборнай вобласці на іх выступілі і выхаванцы Бялыніцкай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы В.Пашэчка і Д.Казлоўскі, якія зараз навучаюцца ў вучылішчах алімпійскага рэзерву.*

*Нашы хлопцы паказалі цудоўныя вынікі ў скачках у даўжыню.Валерый Пашэчка стаў чэмпіёнам рэспублікі, скокнуў ажно на сем метраў. Крыху не дацягнуў да выніку свайго сябра Дзіма Казлоўскі(яго скачок—6,8 метра) , які стаў другім прызёрам.*

*Дарэчы, абодва юнакі з'яўляюцца членамі нацыянальнай зборнай Рэспублікі Беларусь і хутка будуць удзельнічаць у адборы на міжнародную сустрэчу, якая пройдзе ў Кіеве.*

**І. Прыходзька, трэнер раённай ДЮСШ.**

## НАСТАЎНІК У РОЛІ РЭЦЭНЗЕНТА

*Пры Міністэрстве адукацыі Беларусі створана адмысловая камісія па рэцэнзаванню падручнікаў па хіміі, прызначаных для вучняў 8-11 класаў . Складаецца яна з дзесяці чалавек, хто прафесійна займаецца гэтай навукай : прафесараў і дацэнтаў вузаў,выкладчыкаў вядучых ліцэяў і гімназій. Сярод рэцэнзентаў і адзін прадстаўнік сярэдняй школы. Гэта выкладчык хіміі і біялогіі Свяцілавіцкай СШ А.С.Дунчанка.*

*Днямі ў Мінску адбылося чарговае пасяджэнне рэцэнзійнай камісіі, на якім дадзена ацэнка падручніку для вучняў-васьмікласнікаў, аўтарамі якога з'яўляюцца Шымановіч, Свірка і іншыя. Свае заўвагі па ім выказаў і Анатоль Сафронавіч.*

*Цяпер А.С. Дунчанка ўважліва вывучае падручнік для вучняў-дзевяцікласнікаў.*

**( Наш кар.)**

**Намеснік старшыні праўлення калгаса імя Фрунзе па жывёлагадоўлі В.М.Алёшын:**

# „Больш увагі надалі дысцыпліне"

**Аператары машыннага даення кароў калгаса імя Фрунзе па сярэднясутачных надоях сырадою ўпэўнена трымаюцца на другім месцы ў раёне. Першынство яны ўступаюць толькі сваім калегам з Вішова.Фрунзенскія даяркі таксама не дапускаюць і " мінуса" па надоях малака.**

***Наадварот, сёлета яны за дзень надойваюць у сярэднім на 5 кілаграмаў сырадою больш, чым у адпаведны мінулагодні перыяд.***

**— „Прарыў" даярак з калгаса імя Фрунзе, можна сказаць, нечаканы. На фоне мінулагодніх "здабыткаў", сёлетнія іх паказчыкі без залішняй сціпласці можна назваць дасягненнем.А што пасадзейнічала гэтаму?**

—Арганізавана і прадумана быў выведзены дойны статак на пашу. Наладжана яго кругласутачнае ўтрыманне. Каровы ў дастатковай колькасці забяспечаны соллю-лізунцом, вадой. Даяркі і пастухі строга захоўваюць вызначаны распарадак дня, тэхналогію выпасвання.

Мы нічога новага , вядома, не прыдумалі. Проста значна болей увагі надалі дысцыпліне:выканальніцкай і тэхналагічнай. І вынік, як кажуць, сябе чакаць доўга не прымусіў. У гэтыя дні кожны аператар надойвае ў сярэднім ад каровы па 12,3 кілаграма малака. У мінулым годзе гэты паказчык вагаўся ў межах 7-8 кілаграмаў.

**—Якім чынам арганізаваны распарадак рабочага дня жывёлаводаў?**

—У калгасе налічваецца 244 дойныя каровы. Статак падзелены на два гурты, на пашы ён знаходзіцца, як гаварыў вышэй, кругласутачна. Дояцца каровы двойчы на дзень: для трохкратнага не хапае рабочых рук. І так дзякуй нашым аператарам,што працуюць без выхадных.

Паколькі лета з'яўляецца перыядам водпускаў, праўленне гаспадаркі ўлічвае просьбы жывёлаводаў і знайшло магчымасць дзвюм даяркам прадставіць чарговыя адпачынкі.

**— А зарплатай не крыўдзіце жывёлаводаў ?**

—Крыўдзім... Тэрмінамі яе выдачы. На двары ліпень, а калгаснікі яшчэ не атрымалі сваіх заробкаў за люты. Праўда, людзі разумеюць тое становішча, у якім апынуўся калгас. Дзякуй ім вялікі—слухаюцца.Хоць незадаволенасць і расце. Праўленне гаспадаркі шукае магчымасці, як найхутчэй разлічыцца з калгаснікамі, у тым ліку і з жывёлаводамі, па зарплаце.

**— Віктар Мікалаевіч, назавіце вашых лепшых аператараў.**

—Усе яны працуюць добра, у меру сваіх магчымасцяў. А сярод, што называецца, самых-самых адзначу калектыў даярак Голубаўскай фермы. Ён згуртаваны доўгімі гадамі сумеснай работы, вялікім вопытам. Гэта Галіна Мельнікава, Святлана Гарбунова, Тамара Каралёва, Галіна Прамуза.

**— Наколькі ведаю, і ў мясной галіне вашы жывёлаводы не адстаюць.**

— Гаспадарка мае 600 галоў буйной рагатай жывёлы, палова з якіх утрымліваецца зараз на дарошчванні. Сярэднясутачныя прывагі на дарошчванні і адкорме складаюць 550-600 грамаў. Што таксама больш мінулагодняга. За кошт чаго дасягнута прыбаўка? Галоўны фактар і тут, як у малочным цэху, строгая тэхналагічная і выканальная дысцыпліна,прадуманая арганізацыя ўтрымання жывёлы.

Яна ўвесь светлавы дзень знаходзіцца на пашы. Прычым —з самай вясны. Статак забяспечаны соллю і вадой.

**— Ці існуе рэальная магчымасць і надалей дабівацца такіх вытворчых паказчыкаў?**

—Справа ў тым, што надвор'е крыху падсапсавала пашы.Хоць яны і дагледаліся належным чынам, але спякотны чэрвень сваю нядобрую справу зрабіў—травастой збяднеў. Але разлічваем, што "мінуса" па надоях нашы аператары не дапусцяць.

Што ж да зімоўкі, то на сёння корманарыхтоўчы атрад назапасіў для грамадскага статка 300 тон сена, заклаў 1100 тон сенажу. А гэта ўжо больш, чым было летась.

На сілас вырошчваем рэдзьку і рапс. Разлічваем атрымаць яшчэ тысячу тон травянога корму. Будзе і другі ўкос.

Такім чынам, па кармавой базе на будучую зімоўку праблем аніякіх не будзе. Але праўленне гаспадаркі не расхалоджваецца, шукае дадатковыя магчымасці папаўнення фуражу.

**Гутарыў М. КАРПЕЧАНКА.**

## ФОТАІНФАРМАЦЫЯ



**Жывёлагадоўля для калгаса „Радзіма" з'яўляецца найгалоўнейшай галіной сельгасвытворчасці. Менавіта адсюль сыходзіць і тая ўвага, якая надаецца праўленнем гаспадаркі развіццю жывёлагадоўлі.**

**Безумоўна, найперш яна накіравана на падбор і расстаноўку кадраў.**

**Вольга Лянчэўская адкормлівае буйную рагатую жывёлу, прызначаную для ўзнаўлення дойнага статка на комплексе „Усход". Аддана шчыруе 11 гадоў.**

**Анатоль Шарснёў (здымак унізе) два гады працуе пастухом на Гняздзінскай ферме. У яго, бадай, самы адказны ўчастак – ён выводзіць на пашу славутых „ленінградак".**

Фота В. РАДОЎСКАГА.

## НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

### ПАДПРАГРАМА БУЛЬБА БУДЗЕ ПРАДОЎЖАНА

Двухгадовая работа беларускіх і расійскіх спецыялістаў па рэалізацыі сумеснай падпраграмы бульба даказала ўзаемавыгаднасць гэтага супрацоўніцтва для абедзвюх дзяржаў. І наша рэспубліка ўдзельнічае ў гэтай падпраграме як прызнаны лідэр у распрацоўцы сучасных машын па вырошчванню бульбы. У прыватнасці, ужо выпушчаны і выпрабаваны пяць новых відаў сельскагаспадарчай тэхнікі. А сёлета ў час уборкі пройдзе выпрабаванні новы бульбаўборачны камбайн. Іншыя навінкі разлічаны на выпуск айчынных хуткааднаўляльных сумесей для арганізацыі папулярнага рацыянальнага харчавання. Вучоныя лічаць, што рэалізацыю падпраграмы бульба мэтазгодна прадоўжыць да 2005 года, каб укараніць атрыманыя вынікі ў вытворчасць.

### ДА ЎБОРАЧНАЙ ГАТОВЫ НЕ ЎСЕ КАМБАЙНЫ

Яшчэ 45 працэнтаў камбайнавага парку ў гаспадарках рэспублікі не гатова да маючай адбыцца ўборачнай кампаніі. Так, калі ў Гомельскай і Гродненскай абласцях ужо адрамантавана 61-66 працэнтаў збожжаўборачных камбайнаў, то ў Магілёўскай і Віцебскай – прыкладна столькі ж яшчэ трэба рамантаваць. Па-ранейшаму застаецца нізкім узровень гатоўнасці камбайнаў ДОН-1500, на якія ў асноўным і разлічваюць гаспадаркі ў сёлетнюю ўборку, трэба адрэгуляваць адну трэць усіх жняярак. Асабліва адстаюць з іх рамонтам у Віцебскай вобласці.

### СТВАРАЕЦЦА ПРАВАВАЯ БАЗА ДЛЯ РЭФАРМАВАННЯ АПК

Праграма павышэння эфектыўнасці сельскагаспадарчай галіны распрацавана і адобрана ўрадам рэспублікі. Рашэннем Савета Міністраў створаны чатыры групы па падрыхтоўцы нарматыўна-прававой дакументацыі, што датычыць рэфармавання АПК. Паводле слоў намесніка міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Пятра Буціна, работа па стварэнню прававой базы рэфармавання галіны вядзецца комплексна, вывучаюцца і абагульняюцца айчынны і сусветны вопыт, набыты ў гэтай галіне.

### ПЧАЛЯРСТВА — ПЕРСПЕКТЫЎНАЯ ГАЛІНА

Пчалярства ў нашай рэспубліцы павінна стаць перспектыўнай галіной. Аб гэтым сведчыць і той факт, што нядаўна беларускі бок выступіў ініцыятарам сумеснай беларуска-расійскай праграмы па развіццю пчалярства. На думку спецыялістаў, гэта праграма вельмі выгадная для нашай рэспублікі. Размова ідзе не толькі аб атрыманні дыетычнага і лекавага прадукту— мёду, але і аб выкарыстанні пчол як апыляльнікаў сельскагаспадарчых культур.

## СЛАВЯНСКОЕ БРАТСТВО

# ПОД ЗВОН КОЛОКОЛОВ

**На перекрестке трех дорог, где сходятся земли Беларуси,России,Украины, состоялся удивительный и волнующий праздник славянского братства.**

Он несколько десятков лет традиционно собирается в День молодежи. В этом своя символика. Ведь именно нынешней молодежи предстоит направить созидательную энергию на то, чтобы три славянские народа в будущем жили в единой семье.

Шестьсот парней и девчат из Брянской, Черниговской, Гомельской областей и Приднестровья в своем палаточном лагере, своеобразном государстве, построенном у подножья монумента Дружбы, за два дня доказали, что жить семьей единой возможно! В нынешний праздник "Славянское братство—2000" гостей принимали белорусы.

Славянское поле пестрело от вышиваных рушников, скатертей, многообразных поделок,бондарных изделий,художественных полотен. Воздух июльского дня казался более горячим от запаха блинов, шашлыков, колбас, обилия копчёностей и всякой вкуснятины, которыми завлекали торговые ряды потребкооперации из Клинцов, Новозыбкова, Речицы и Жлобина,Чернигова и Стародуба, шатры-кафе, уютные закусочные, млын-корчма...

В едином порыве,словно Днепр, Сож и Десна, из трех направлений устремились к монументу Дружбы три людские потока, делегации трех братских республик. Повсеместно звучит: "Здравствуй, брат!", "Прывітанне, сябра!", "Витаю, дружа". Колонну белорусской делегации возглавляют председатель Совета Республики Национального собрания П.В. Шипук, председатель Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь А.А. Малофеев.

Знамена , плакаты, транспоранты. Везде слова славянского братства. На удивление бодро шагают ветераны войны и труда. В колонне прославленные спортсмены, представители заводов и колхозов, творческая интеллигенция, коллективы художественной самодеятельности. Звучат гимны трех республик. На флагштоках подымаются флаги Беларуси, России и Украины. С импровизированной сцены к присутствующим обращается с взволнованной речью председатель Гомельского облисполкома Н.Г.Войтенков. Он сердечно приветствует дорогих гостей. Оглашаются приветствия Президента Республики Беларусь А.Г. Лукашенко и Президента Украины Л. Д. Кучмы.

Со словами братства ,дружбы и единения обращаются к участникам праздника председатель Совета Республики Национального Собрания Республики Беларусь П.В.Шипук, губернатор Брянской области Ю.Е. Лодкин,руководитель Черниговской областной администрации Н.П.Бутко.

Под перезвон колоколов архиепископ Гомельский и Жлобинский владыка Аристарх напоминает присутствующим о православной вере как объединительном фундаменте наших народов, желает " многие, благословенные лета".

Из-за лесочка медленно подымается в голубое небо с флагами братских республик огромный воздушный шар. Как гимн великой дружбе звучат слова гомельского хорового коллектива:

Три народа—три брата,
Три народа —три брата,
И у нас, как у птиц,
Нет межи, нет границ!

Когда июньское солнце,подустав, медленно стало опускаться за горизонт, я покидал этот праздник молодости, дружбы и братства. Еще не захлопнув дверцу машины, я услышал, как миловидная девчонка, махая флажком, кричала из окна автобуса белорусским парням:

– До зустричи, друзи!

**Олег ПЛИНДОВ.**
**внештатный карреспондент**

## ФОТАЭЦЮДЫ





● Пяе матроская душа.
● Ох, і цяжка быць дужым.

**Фота В. РАДОЎСКАГА.**

## ● ПРАВАСЛАЎНЫ КАЛЯНДАР

### Дзень слаўных і ўсяхвальных першавярхоўных апосталаў Пятра і Паўла.

12 ліпеня праваслаўная царква ўспамінае пакуты і смерць святых апосталаў Пятра і Паўла.Пётр (Сімон) — руплівы паслядоўнік Ісуса Хрыста, аўтар двух саборных пасланняў (яны ўвайшлі ў Біблію), прапаведаваў спачатку ў Іудзеі, затым у Анціяхіі, Віфаніі, іншых месцах , а таксама па ўсёй Італіі і ў самім Рыме.

Святы апостал Павел (Саўл) прапаведаваў у многіх краінах, напісаў 14 пасланняў да асобных цэркваў і людзей (яны таксама ўвайшлі ў Біблію).

Святыя Пётр і Павел больш за ўсіх шчыравалі ў пропаведзях веры Хрыстовай і таму названы царквою першавярхоўнымі. У час праўлення рымскага імператара Нерона Пётр быў распяты , а Апостал Павел абезгалоўлены.

12 ліпеня заканчваецца 17-дзённы пост, які адрозніваецца ад Вялікага тым, што дазваляецца ўжываць рыбу ва ўсе дні, але нельга есці тлушч, рыбу і алей у панядзелак, сераду і пятніцу. Святая царква ў службе дня памяці Пятра і Паўла ўслаўляе святых апосталаў: " сябры Хрыстовы, " рэкі прамудрасці", " суссвету насыціцелі", " дабрадзейныя прапаведнікі", "падмурак царкве, стаўпы і сцены, і трубы Хрыстовага вучэння і пакут".

**Р. ТКАЧОЎ, намеснік старасты царкоўнага Савета праваслаўнага храма Бялыніцкай Божай Маці.**

## ДА ВЕДАМА АБАНЕНТАЎ

З 19 чэрвеня Рэспубліка Беларусь распачала пераход сумесна з Расійскай Федэрацыяй на міжнародныя прынцыпы нумарацыі тэлефонаў. Пры гэтым да 18 снежня г.г. будзе ажыццяўляцца дзеянне старога і новага набораў. Па завяршэнні гэтага тэрміну дзейнічае толькі новы парадак.

Міжнародны код краіны 7. Парадак набору наступны: 8+10+код краіны+нацыянальны нумар.

Міжнароднага апаратара ў Расіі можна набраць:

| | | |
|---|---|---|
| Масква | 7+095 | 3392755 / 3397977 |
| Масква | 7+095 | 9730381 |
| Екацерынбург | 7+343 | 82 |
| Хабараўск | 7+421 | 11 / 12 |
| Краснадар | 7+861 | 82 |
| Курск | 7+071 | 82 |
| Набярэжныя Чалны | 7+855 | 82 |
| Ніжні Ноўгарад | 7+831 | 82 |
| Новасібірск | 7+383 | 82 |
| Растоў | 7+863 | 82 |
| Санкт-Пецярбург | 7+812 | 82 |
| Самара | 7+846 | 82 |
| Сочы | 7+862 | 82 |
| Тальяці | 7+848 | 82 |
| Тула | 7+087 | 82 |
| Уладзівасток | 7+423 | 82 |
| Валгаград | 7+844 | 82 |

**Адміністрацыя РВЭС.**

## КРЫЖАВАНКА




**ПО ВЕРТИКАЛИ:** 1. Главное богослужение католической церкви. 2. Острая вирусная высококонтагиозная болезнь млекопитающих. 3. Малая планета. 4. Замкнутая общественная группа людей. 5. Зерновой злак. 7. Защитник в суде. 8. Небольшой выступ плоскости фасада. 9. Деформирование прутковых, профильных заготовок в ковачных вальцах. 10. Поперечная разрезка ствола дерева. 12. Сосуд из плода тыквы. 13. Ряд вьючных животных. 20. Минерал класса хроматов. 22. Вокально-инструментальное произведение. 26. Город в Китае, порт на реке Янцзы. 27. Русский струнный щипковый музыкальный инструмент. 29. Горы на юге Турции. 30. Домашнее парнокопытное жвачное животное семейства полорогих.

**ПО ГОРИЗОНТАЛИ**: 5. Судебное дело. 6. Белорусский народный писатель. 8. Специалист по восстановлению памятников искусств. 11. Морской порт близ устья Лены. 14. Город в Японии, на острове Хонсю. 15. Венгерский композитор (оперетты "Сильва", "Баядера", "Марица"). 16. Рыба семейства макрелещуковых. 17. Старинный струнный музыкальный инструмент. 18. Выборный представитель, уполномоченный государством, коллективом. 19. Африканская хищная птица. 21. Корм северных оленей. 23. Русская женская одежда. 24. Повесть И. Пташникова. 25. Подразделение в авиации. 28. Строительное искусство, зодчество. 31. Народный артист, снимался в фильмах "Семнадцать мгновений весны", "Доживем до понедельника" и т. д. 32. Опера С. С. Прокофьева.

**Составила Н. ШИНКАРЕВА. г. п. Белыничи.**



## ВІНШУЕМ!

Віншуем з 65-годдзем дарагую і любімую
**Ганну Яфімаўну БЕЛЬСКУЮ!**

Много лет за плечами твоими,
И в такой неспокойный наш век
Мы хотим, чтоб была ты счастливой,
Близкий нам и родной человек.
Пусть лицо озаряет улыбка
И не старится сердце вовек.
Ты для нас самый лучший на свете,
Самый нужный, родной человек.

**Любячыя цябе сыны, дочкі, нявесткі, зяці, унукі.**

---

Горача і сардэчна віншуем дарагую
**Лідзію Мікітаўну КАВАЛЁНАК**
з днём нараджэння!

Светлых дней, добра и ласки
Мы желаем от души,
Жизнь твоя была чтоб сказкой,
И дела все хороши.
Чтобы утренней зарею
Восхищалась ты всегда,
Чтобы сердцем и душою
Не старела никогда.
Пусть никогда печали тень
Твои глаза не омрачает.
Здоровья, счастья каждый день.

**З любоўю і павагай любячыя цябе ўнукі Каралёнак Алена і Саша.**

---

Дарагую і любімую мамачку, бабулю, цешчу, сяброўку
**Лідзію Мікітаўну КАВАЛЁНАК**
віншуем з днем нараджэння!

Жадаем моцнага здароўя, не старэць, не хварэць і да ста год пражыць такой прыгожай.

**Любячыя цябе дачка,зяць, унукі, Чорная Л., Гарбылёва З.Е.**



Знайшоўшага сумачку з дакументамі на імя **МАШЧАНОК** Марыны Васільеўны ў ноч з 6-га на 7-га ліпеня, просьба вярнуць за ўзнагароджанне. Тэл.23-253

Згубленае пасведчанне інваліда II групы **ГУРТАНАВА** Васіля Іларыёнавіча лічыць **НЕСАПРАЎДНЫМ.**

**Калектыў рабочых і служачых АГП ,,Друць" смуткуе з выпадку смерці КАЗЛОЎСКАГА Васіля Васільевіча і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

**Сем'і Віннікавай Л.П., Хадоркінай В.А., Кулік Е.А. смуткуюць з выпадку трагічнай смерці дзядзькі МАЦЮШЭЎСКАГА Івана Іванавіча і выказваюць глыбокае спачуванне яго жонцы, дзецям і ўнукам.**

**Калектыў работнікаў паліклінікі выказвае глыбокае спачуванне ФІЛІПОВІЧ Тамары Сцяпанаўне з выпадку дачаснай смерці брата ТРУСАВА Віктара Сцяпанавіча.**

**Класны кіраўнік і вучні 10 класа Машчаніцкай сярэдняй школы выказваюць глыбокае спачуване ТРУСАВАЙ Таццяне з выпадку напаткаўшага яе гора – дачаснай смерці бацькі.**

**Сем'і Арлоўскіх, Сувіт, Баравецкіх, Медзвядзёвых, Сідаровіч выказваюць глыбокае спачуванне ЛІПАЕВАЙ Надзеі Пятроўне, яе дзецям і ўнукам з выпадку напаткаўшай цяжкай страты – смерці мужа, бацькі, дзядулі.**

**Праўленне і прафкам калгаса ,,Радзіма" выказваюць глыбокае спачуванне аператару комплексу ,,Усход" СІДАРЭНКА Веры Фядосаўне і механізатару НІКІЦІНУ Анатолю Міхайлавічу і іх сям'і з выпадку трагічнай смерці дачкі і зяця.**

**Сем'і Крыўдзіных, Юхноўскіх выказваюць глыбокае спачуванне РАКУЦІНАЙ Надзеі Васільеўне, яе дзецям і ўнукам з выпадку напаткаўшага іх гора – трагічнай смерці мужа, бацькі, дзядулі ТРУСАВА Віктара Сцяпанавіча.**

**Рэдактар Мікалай ПАДАБЕД**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**213160 г. п. Бялынічы, вул. Савецкая, 27.**

**Газета падпісана ў друк 11. 07. 2000 г. у 11.00**

Рэгістрацыйны № 363.

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.**

**Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**Рэдактара –51-168, намесніка рэдактара і адказнага сакратара – 51-392, аддзелаў пісьмаў і сацыяльных праблем – 51-739, бухгалтэрыі –51-541.**

**Газета выходзіць у сераду і суботу**

Газета набрана і звярстана ў рэдакцыйным камп'ютэрным цэнтры, надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70. Аб'ём 1 друк. аркуш. Заказ № 52. Тыраж 3169 Індэкс 64074.